# ВЕЧА-VIEČA

## Усяму Беларускаму Народу жадаем найвялікшага шчасьця і посьпеху ў Новым 1971 Годзе!

*We wish you happy, prosperous 1971 New Year!*

№ 1 (11)

Год II, 1971 Студзень — January Year II, 1971

Беларускі квартальны часапіс — Byelorussian Quarterly Magazine

# INVITATION TO DISCUSSION

1970 was a year that opened public discussion of the Byelorussian inheritence in the Free World — the youth. The journal "Vieča", published few articles in both Byelorussian and English, — Byelorussian Youth' — about the Post World War Two situation, fate, and suggestion for solution of the Byelorussian Youth's problem outside of Byelorussia. In the journal, also, were many remarks, suggestions and accusations made by other artcles, where discussion related in some way to our inheritance — the youth.

The English article, "Byelorussian Youth", was written by the editor of the journal. The effort to explain the situation was made to the best of my abilities and knowledge. There is no doubt therefore, that many remarks, accusations, and suggestions were distasteful to those that consider themselves leaders of Byelorussian people or youth and those who are affiliated with them and trust in their leadership.

In September 1970, on Labor Day, the worriers of the BCR and the BNR discussed the Byelorussian situation of the United States and Canada at their bi-annual meeting in the U.S.A.

Neither of the groups published what was discussed, but those who were present gave some information of the argument from the youth's side. One is worth mentioning: "What do you want from us?" Here is probably the whole secret, a key. The older generation, especially a BCR supporter, turned the discussion to a brawl, which is not surprising either.

An adherence to the BNR, in their monthly newspaper "Biela-rus", offered a discussion of the Byelorussian Youth's problems and solutions to these problems. So far, no one has come up with any suggestions for solutions except one man from Los Angeles — Winnicki. He suggested that a world organization of their partisan thinking should take care of the situation. Knowing the age and way of thinking of the members of this organization, there is no hope for any action — only a little talk.

In the journal, "Vieča", Dr. J. Stankiewich, in an article, "For Byelorussian Youth", insists that a course (čytań), composed of the Byelorussian Language, history, and literature will solve the entire problem. There is very little hope that the corrupt Byelorussian society of South River will have any kind of public discussion, their fear is young ideas.

Because the Byelorussian Youth don't have any type of journal or newspaper of their own: we offer the pages of our journal to all of you to state your comprehension of the Byelorussian patriotic feelings of your parents and grandparents, to give reasons why you don't follow them, and suggestions of how you would like to see the life of the Byelorussian Youth organized.

*Editor*

# „Веча“ й пахвала „Веча“

Маем ужо і дзесяты нумар „Веча“. Прачытаўшы артыкул у 9-ым нумары „Веча“ й крытыка „Веча“, я надумаўся напісаць нешта падобнае, ужо, як пахвалу „Веча“, бо я вельмі задаволены, што такі часапіс паявіўся ў нашай эміграцыі, не як ворган нейкае партыі ці зацікаўленых фондаў, ад якіх заўсёды бываюць залежнымі рэдактары ды мусяць пісаць „як пан кажа“. А „Веча“, як ведаем, зусім незалежны ворган, у якім ужо пісалася ўсяк, хаця яшчэ ня ўсё сказана, што павінны ведаць Беларусы. Але маем надзею, што яшчэ будзіць выдрукавана шмат цікавага матар'ялу.

Я думаю выказацца інакш, у многіх нашых супольных праблемах, як сп. Давідовіч Гор. Я ёсьць зусім іншы чалавек.

Эміграцыйныя праблемы і праблемы на Бацькаўшчыне ня толькі разнаякія, але драстычныя. Яны не канчнюцца на адным пакаленьні ў пэўным часе, а жывуць і будуць жыць.

Апынуўшыся над „разьбітым карытам“, трэба адказацца сваей „непамыльнасьці“. Трэба лічыцца із поступам часу і апініяй маладога пакаленьня Беларусаў, якія менш цікавяцца якой мовай пісаўся „Айкітаб“, як тым, дзе сустрэцца зь Беларускай моладзьзю і знайсьці сабе адпаведную партнэрку, каб із ёю можна было размовіцца пабеларуску і праз гэта мець сувязь з Беларусамі. Йшчэ ня ўсе нашыя маладыя зьбіраюцца ісьці ў „хіппі“, хоць аднаго разу. яны акружылі Бэлэр Менск із усіх бакоў, дзякуючы банкруцтву нашых апякуноў рэсорту, якія кінуліся на спэкуляцыю, замест кіраваацца сваей нацыянальнай салідарнасьцю.

Восьжа Бэлэр Менск. І мне здаецца, што др. Маркоўскі дзеля яго пачаў выдаваць гэты часапіс, а не дзеля крытыкі ўсяго і ўсіх, аб чым ён выразна зазначая ў сваіх артыкулах. Шукаючы эканамічнае базы для нашае эміграцыі ён назваў рэзорт Бэлэр Менск — „Малая Беларусь“, у якой не павінна быць беспарадку, а парадак — на аснове этыкі і маралі. Гэта не павінна была быць тэрыторыя усякіх інтрыгаў для домарослых палітыкаў з рознымі неадпаведнымі поклічамі: „бі сваіго, каб чужы баяўся“. Нажаль, гэтак амаль і атрымалася. Рассвараныя яшчэ ў Вільні, Менску і ДП лягярох, нашыя гора-палітыкі задумалі тут адпомсьціцца на сваіх праціўніках, што выканалі „клясычна“. Лягчэй разваліць збудаваны дом, як

яго збудаваць. Цяпер шукаюць віноўнікаў разгону Беларусаў із Бэлэр Менску, і як нехта пісаў у №7 „Веча“, вінавацяцца пяруны і маланкі, а не тое ліха якое ў нас самых сядзіць. Таму „Беларус“ і „Беларускі Голас“ напісалі аднолькавыя „прывітаньні“ да „Веча“.

Маім паглядам, Беларусы больш здабылі сабе пазыцыяў пад кажным паглядам, для беларускае справы, як-бы арганізаваліся на сьведамасьці свайго нацыянальнага паходжаньня (аб чым некалі гаварыў др. Шчорс), як працягваць традыцыю гістарычных Радаў БНР ці БЦР, зь якіх і так выйшаў „пшык“. Беларусы да гэтае пары астаюцца расвараныя. Дый на практыцы выйшла так. У Вашынгтоне стварыліся прадстаўніцтвы з этнічных групаў эмігрантнў у ЗША, а не із экзыльных урадаў. Нашыя гора-палітыкі карысталіся хвальшывымі даносамі, каб здабыць сабе прымат.

Палякі ды Украінцы не ўцягвалі ў свае масавыя арганізацыі прадстаўнікоў экзыльных урадаў, ахоўвалі іх ад партыйнага антаганізму памагаючы ўсім суродзічам бяз розьніцы. Нашыя „палітыкі“ стараліся пераканаць, што БЦР не была саюзніцай Г-немцаў а была нацыянальнай і спрыяла Саюзьнікам Атлянтычнага пакту і г.д. Другая-ж група Беларусаў ставілася негатыўна дый згуртавалася вакол амаль самазьліквідаванай БНР. Больш легальныя ўрады ў экзылі (Польшчы, Югаславіі) не рэспэктуюцца Альянтамі, дык нашто ім такая БЦР ці БНР без тэрыторыі й народу. Прыняўшы к сабе розных эмігрантнў, яны былі больш зацікаўленымі, каб іх пакінуць назаўсёды сабе, а не змагацца за іх паварот на ўтрачаную бацькаўшчыну. Нашыя дэмагогі не захацелі зразумець сапраўднасьці, выстаўляючы сябе прэтэндэнтамі і спадкаемцамі Бэлэр-Менску, забываючыся, што ён знаходзіцца на тэрыторыі ЗША.

Наагул, увесь зьмест 9-га нумару „Веча“ ёсьць цікавы і шмат, шмат у ім маецца загадак для нашых маладых чытачоў. Шмат у ім зварочваецца ўвагі на беларускую мову. Але каму яна патрэбная апрача нас? А мы павінны выбачыцца на мову пінчука ці магілеўскага беларуса. Цяпер іх дзеці паканчалі каладжы нам больш патрэбныя, як іх мова на чужыне. Ды наш паважаны пісьменьнік К. Акула напісаў сваю „Гараватку“ правінцыянальнай гаворкай, якую не так цяжка чытаць, як і „Запісы“ Адамовіча.

Па-моему ня варта было-б уплятаць рэлігійныя справы ва ўсе падзеі нашага эміграанцкага жыцьця, бо-ж і так нашая эміграцыя не ўтрымаецца пры сваім, як усё амэрыканізуецца. А ці будзе на Беларусі больш каталікаў ці праваслаўных — рэлігійных войнаў

і так нябудзіць. Усё на сьвеце рэфармуецца, не амінаючы хрысьціянскую рэлігію. „Айцоў духоўных“ час ад часу варта працерці, бо яны нам ня сьвецяць добрым прыкладам, гэта із іх пачалася ўсякая бяда на эміграцыі. Вось і цяпер а. Лапіцкі ўсяк інтрыгуе ў справе БэлэрМенску, каб яго прыгалубіць сабе, бо яго вартасьць налічваецца 100.000 даляраў. З пачатку куплі нашага рэзорту ён адмаўляў людзей, бо яму лепш падабаецца Флярыда чым паўночны край ЗША. А як яму патрэбныя Беларусы для паездкі ў Торонта для яго палітыкі, дык ён узноў намаўляе іх, расхваляе, што там наш „беларускі клімат“ — варта паехаць і прыгледзіцца.

Аб ролі патрыятызма ў жыцьці людзей маем вельмі шмат прыгожых прыкладаў. Др. Маркоўскі дзейнічае із патрыятычных пачуцьцяў паміж Беларусаў а не із якіх „міністэрскіх“ заданьняў. Праўда, каб патрыятызм урэчаісьніць у практыцы патрэбна шмат іншых элемэнтаў. Аб усім гэтым шмат трэба яшчэ вучыцца Беларусам, каб здабыць дома і ў сьвеце эканамічнае, палітычнае, культурнае становішча, а не толькі „людзьмі звацца“.

Займацца плянамі на будучыню, як уладзіць Беларускую Народную Рэспубліку таксама няварта, гэта із часам само прыдзе. А вось прапагаваць асьвету, здабываць навуку ўсякімі магчымымі спосабамі — трэба.

*А. Сьвіслацкі*

***

*А. ГАРЫГЛЯД*

# ПЕРАД УСІМІ

Два словы й дзьве рэчы лучацца ў адно, найдарожшаё, найважнейшаё кожнаму цывілізованаму. Адно: людзі, ад якіх роджаны, гадаваны, бацькі, сваякі, суродзічы, свой народ. Другое: месца народжаньня, жыцьця, паходжаньня, радзіма, айчыма, бацькаўшчына, родная зямля. У нас, гэтыя словы лучацца ў адно; Беларусь.

Ня нашая думка мець гэтая слова: Беларусь, за найдарожшаё. Ужо Рымляне мелі яго: Дабро Народу — Найвышэйшы Закон. Немцы сьпяваюць: Нямеччына над ўсех. Французы йшлі на сьмерць пад сьцягам: Францыя на Пачатку. У найгоршым зьдзеку над народам й крайінаю, нашыя папярэднікі, верылі: Жыве Беларусь. Ды

йшлі на няроўнае змаганьне Каб Жыла Беларусь.

Беларусь нам найдаражэй, таму што бяз яе немагчымае нашаё жыцьцё, нашае йстнаваньне, дабрабыт, ані пэўнасьць заўтра, ані сяняшні хлеб штодзённы. Ужо тое, што мы просім Бога аб „хлеб штодзённы“, кажа, што гэты хлеб сам сабою ня даецца.

Імкненьне кожнага жывога чалавека: задаволіць свае патрэбы й пажаданьні. Рэчыўна гэта зводзіцца да прадоўжаньня нашага йснаваньня. А што рэчыўна лепш прадоўжывае нашае йснаваньне на зямлі, як ня дзеці? А гэтаж нашыя суродзічы, наш народ.

Здарыцца сужонства з іншымі. Але ад нас залежнаё, ці гэтаё сужонства перадасьць нас ў іншы народ, ды мы счэзьням ў іншым, як чэзьне капля ў вядры вады. І бяз сужонства можам старацца згубіцца ў чужым натоўпе. Дзеля моды, нават счарніць свой воблік. Нашыя дзеці нас будуць цурацца. Зьменяць прозьвішча, абрэжуць, выкруцяць. Зьменяць веру й думаньне. Нават мяшяньне крыві, праз некалькі пакаленьняў нічога ня астанецце ў нашчадках.

Але калі ў народзе, нашае супольнае будзе мацавацца, мы будзем жыць у нашых дзецях, ўнуках, у вечнасьць. Ня разводжаныя, але згушчываныя ў свайм родным-народным.

Народ можа йснаваць бяз зямлі, прастору, бацькаўшчыны. Гіблотнаё йснаваньне. Зьдзек чужынца на народзе й на кожнай асобе, ў народзе бяз зямлі. Гэта рэчыўнае выразаньне, сьветкамі якога шмат хто з нас быў.

Можам, ці ня можам, а мусім змагацца за прастор, за зямлю для свайго народу. Так як змагаемся за прастор для самых, для свайх дзяцей. Для беларусаў — Беларусь перад ўсімі.

Ёсьць думка міжнароднасьці, ўсянароднасьці, „пані“ Эўропы, „пана“ сусьвету. Думка спозьненая більёны гадоў — добрая для Адама й Евы, калі першыя людзі зьявіліся ў чужым, варожым ім асяродзьдзі йншых жывых. Але сяньня людзі мусяць змагацца з людзьмі, каб мець крыху прастору, еміны, вады, цяпла. Мець дабро сабе й свайм.

Ўсялюдзкі кліч дае карысьць тым, хто ўжо ўсё мае й ня хоча йм падзяліцца з іншымі, ці ня можа. Гэты кліч паўтарае канешнасьць абмяжаваньня раджэньня нашчадзтва. Гэты кліч змагаецца за паварот зямлі да нялюдзкага, прыроднага карыстаньня. У моцных ёсьць пэўнасьць, што йхні народ пратрывае зьменшаньне род-

жаньня, займо зямлі пад пушчы, адданьне вады рыбам.

Яно лягчэй ня мець дзяцей й клопату. Яно выгадней зрачыся свайго народу, далучыцца да моцных, ды счэзнуць ў іншых. Але да чаго гэта давядзе нас, нашых сваякоў, суродзічаў, наш народ? Хто ўтрымае ад зьдзеку чужынца слабейшых з нас? Хто будзе змагацца, каб нас ня рэзалі, як гэта было з жыдамі? Немцы-ж культуральней, і хрысьціяне лепшыя за шмат каго мы ведаем з нашых суседзяў.

Беларусь Перад Усім, значыць нашае змаганьне за сваё жыцьцё. Можна развжацць аб спосабе змаганьня, за аружжа ў змаганьні, за саюзьнікаў, а хто ёсьць спрыяльнікам ворага. Але ня можа быць разважаньня аб шкоднасьці стаўленьня Беларусі перад усімі, ды ўсім. Беларусь нас вядзе да дабра й „ўнукаў панаваньне там дзе сяньня плача дзед“.

Кажуць, лепш пісаць: Наўперад Беларусь. Іншыя пісалі: Беларусь перадусім (ня перадушваць?). Розныя паняцьці. Беларусь на перадзе, але й Беларусь з боку й ў задзе, пад сподам й на версе: Беларусь Перад ўсім дзе яно ня былобы й што яно ня былобы, ды хто гэта ня быўбы, заўсёды, цяпер й ўвесь час.

Наш народ, нашая крайіна, нашаё заўтра й наш хлеб сяньня: Беларусь перад Усім й ўсімі.

Зьмена назову нашага народу й крайіны даўно робіцца. Рабілі чужынцы, рабілі свае. Адробліваць цяпер, ці час, ці нагода? Шмат назоваў народнай, гістарычнай, дзяржаўнай, нават гаспадарчай важнасьці.

Шмат аб гэтым пісалася. Хай будзе яшчэ адна зацемка нашага суродзіча з Наваградка, што папаў ў белагвардзейскую грамаду ў Югаславій: „Чаму нам беларусам змагацца за маленькую Беларусь, абрэзаную князямі, царамі, бальшавікамі? Чаму ня думаць пра Беларусь вялікую, што зьбярэ ўсе даўныя нашыя плямёны й іх землі? Беларусь, што ўладзіць разваліны Расейскай царскай і бальшавіцкай імпэрыйі. Сібір адпадае, Урал, Паволжа, гэта ня нашыя й ня расейскія народы й крайіны. Тыя народы падбітыя царамі, глумленыя бальшавікамі хочуць незалежнасьці. Чаму нам ня заняць нашыя, беларускія землі Разані Цьверы? А калі між йх пападзе й горад Масква, дык ціж беларусаў віна, што там маскалі пабудаваліся? Упадзеях гісторыйі хай Белая русь заменіць Вялікую, Чырвоную, БССР і РСФСР. Чаму нам беларусам ня гаспадарыць на нашага народу адвечным прасторы?“

Часамі дрэннаё выходзіць на добраё. Можа й маскоўскія, цяпер, парадкі дзеюць на карысьць нашага народу? Можа Калінінградзкая вобласьць робіцца беларускаю этнічна, як яна ніколі ня была?

Ды ўсё будзе на карысьць і дабро нам і народу, калі будзем памятаць і дзеяць, а напеўна думаць: Беларусь Перад Усім.

⁂

# Заўвагі да артыкулаў: „Перад усімі“, „Веча“ й пахвала „Веча“

„Па моему не варта было-б уплятаць рэлігійныя справы ва ўсе падзеі нашага эмігранцкага жыцьця“.

Трэба адрозьніваць тых, хто ўплетаіць рэлігійныя справы ў групавое жыцьцё Беларускай Палітычнай Эміграцыі і тых, хто крытыкуіць і змагаецца із тымі, што ўплялі рэлігію ў групавы патрыятызм.

У Беларусаў на эміграцыі рэлігія павінна была стацца крыніцай маральнае сілы, а не дэмаралізуючым сродкам зьбянтэжаных фюрараў; так як патрыятэчныя лёзунгі: „Беларусь перадусім“, „Беларуская Справа“ клічыць да агульнанацыянальнай мэты, а не групавых склокаў.

„Займацца плянамі на будучыню, як уладзіць Беларускую Народную Рэспубліку таксама ня варта, гэта із часам само прыдзе“.

Не! Не! Не! Не! 20 міліёнаў раз ад дваццаці міліёнаў Беларусаў хачу сказаць НЕ! Нішто само не прыдзіць, гэта трэба выкінуць із галавы раз і на заўсёды.

Добры эканамічны, праўны, культурны стан народу ўздымаюць патрыятычнае пачуцьцё да сваей дзяржавы і пашану да яе лідараў; тады для кожнага ёсьць зразумелым кліч „Беларусь Перадусім“. На выпадак страты дзяржаўнай незалежнасьці, „Беларусь і Змаганьне“ маюць сэнс.

Як аўтар артыкула „Веча“ й пахвала „Веча“ дый многія іншыя

Беларусы ёсьць няздольнымі зразумець тых вялікіх дарог, якія вядуць да патрыятызма, чамусьці ня хочым зразумець таго, што нас зрабіла нешчасьлівым народам. Паддацца лёсу ёсьць хвароба Беларуса. Часткова гэтаму ёсьць віноўнік нашая рэлігія, хоць народ даўно заўважыў: „Бог таму памагаіць, хто стараіцца“.

Кубанскі Кастро, нядаўно, на сакрэтным зьезьдзе сваіх пасьлядоўцаў прызнаўся, што лягчэй было выйграць дваццаць бітваў чым разьвязаць адну эканамічную праблему. Як бачыце гэта не так ёсьць лёгка.

Калі просты народ верыць, што „само прыдзе“, як зразумець беларускіх лідараў, якія карыстаюцца той самай формулай: „спачатку трэба мець незалежнасьць, а потым народ зробіць выбар. як ён маіць жыць“. Вельмі прыгожа звучыць, але напрашваіцца пытаньне: чаму такімі добрымі вы ня хочыце быць вось тут на эміграцыі?

1. У ДП лягярох, якіх спачатку здаецца было два, із 300-400 Беларусаў у кожным асяродку адна група выконвала ролю сабакі а другая ролю ката. УНРАўскія ўлады разьвезьлі, як тую жывёлу, каб адлегласьць не давала магчымасьці бачыць адзін другога. Нехта скажыць, што гэта было вельмі добра. Хачу адказаць: для тых, хто кіруецца формулай „дзялі і пануй“, так, для Беларускай Палітычнай Эміграцыі гэта быў вельмі дрэнны фундамант на будучыню, гэта быў пачатак таму разьбітаму карыту, над якім мы апынуліся, гэта быў пачатак той удушлівай, сьмярдзючай атмасфэры, якая паразганяла, перасварыла Беларускую Палітычную Эміграцыю.

2. Пяць год у ДП лягярох, пяць год у заакіянскіх краінах пераканалі ўсю Беларускую Палітычную Эміграцыю, што лягернаму расколу мусіць быць канец. Аднак, тыя што кажуць, што яны будуць кіравацца воляю народа на Бацькаўшчыне, рабілі і робяць усе высілкі, каб „дзяліць і панаваць“ дый пакінуць па сабе „славу“.

Калі першыя два прыклады далі характырыстыку агульна, дайце зробім аналіз некалькіх урапатрыётаў групавога патрыятызма для таго, каб пераканацца ў здольнасьці весьці „Беларусь у Змаганьне“, а як перамогуць, тады будзіць „усё так, як народ будзіць хацець“.

1. „Знамянітая Саўтрыварская тройца“: протопросьвіцер, іван іванавіч, браты Шчорсы.

Вельмі сумневаюся, што ў дакумэнтах амэрыканскага грама-

дзянства запісаны, як Беларусы, напэўна палякі, знаю, што „непамыльны“ кіраўнік моладзі Сенько ёсьць паляк.

Прыблізна, восем год таму назад у Чыкагскай Беларускай Праваслаўнай Царкве Сьвятога Юрыя, 10% прыхажан (ініцыятараў) царквы зрабілі прыход сваей собскасьцю. Калі-ж 90% прыхажан начале із япіскапам Уладзімерам зажадалі царкву зрабіць собскасьцю прыхажан, тады тыя, што групавым патрыятызмам зьвязаны із саўтрывэрскай тройкай, пачалі прыпісваць япіскапу ўсякія амаральныя ўчынкі дый наканец, із Саўт Рывэра зьявіўся духоўны жандарм, які дапамагаіць сваім ідэялістам у „дэхарытанізацыі“ духоўнай асобы, якая вышэй за яго ў духоўным стане. Поўная ігнарацыя большасьці, амаральнасьць.

Гэта гэтая знамянітая тройка прывяла саўтрывэрскі асяродак да карупцыі, да ўпадку.

Ня будзем апісваць усіх іх інтрыгаў, каб разваліць нашую „Маленькую Беларусь“ — Бэлэр Менск. Вы ўжо ёсьць знаёмы.

Тыя, хто жадаіць знаць, як яны разагналі вэтэранскую арганізацыю напішыце да палкоўніка Буглая.

Палітычны дэвіз: „Беларусь Перадусім“, каб нам тром быць усім. Такія людзі ня толькі дыскваліфікаваны быць лідарамі нацыі, але ёсьць нягоднымі быць лідарамі на нізох.

2. Эмігранцкая Рада БНР.

Улада прэзыдэнта пераходзіць па тэстамэнту, незразумелая форма манархіі-дыктатуры.

Публічна не адзін радны ня высказаўся пра форму дзяржавы, якую ён падтрымоўваіць — „непредрешенство“.

Міжгрупавыя і асабістыя суадносіны практыкуюць у такі самы спосаб, як эмігранцкія шчэпкі нямецкай акупацыйнай БЦР.

Газэты „Бацькаўшчына“, „Беларусь“ найбольш прамаўляюць які палітычны кірунак.

Сёньня, Эмігранцкая Рада БНР ня ёсьць тым ідэйным органам, ад якога так многія і так многа спадзяваліся па другой сьветавай вайне.

За 25 год, гэтая арганізацыя згубіла больш палавіны сваіх прыхільнікаў. Наступныя 5-10 год арганізацыя будзіць зусім каталіц-

каю. Штосьці надзвычайнае, нехарактэрнае для беларускай эміграцыі зьменіць лёс гэнай арганізацыі ў іншым кірунку.

Палітычны дэвіз „Беларусь і Змаганьне“ радзі ватыканскага панаваньня зьвялі амаль на нішто арганізацыю Беларускіх Рэвалюцыянэраў Сацыялістаў, для якіх дэвіз быў: „Беларусь і Змаганьне“ радзі панаваньня сацыяльнай і праўнай роўнасьці сярод Беларусаў.

Як радактар часапіса „Веча“ і як беларус, які жадаіць найлепшага Беларускаму Народу, хачу папярэдзіць, што ўсякія павярхоўныя, неабдуманыя праграмы, клічы даюць хаванку прафэсыянальным рэнагацікам, апартуністам, кан'юнктурыстам, кар'ярыстам, шырокае поле палітычным недапекам, фанатыкам, зьбянтэжаным „фюрарам“, гэта можыць быць фальшывай прыманкай для цэлай нацыі із трагічнымі пасьледкамі. Найлепшы прыклад ёсьць пасьледкі Другой сьветавой вайны на Бацькаўшчыне, альбо рэвалюцыя 1917 года ў Расеі.

Асоба альбо група асоб ці партыя, якія маюць амбіцыю быць лідарам народа, павінны паказаць дакладны палітычны твар у галіне права, эканомікі, культуры. Для нас Беларусаў гэта асабліва ёсьць важна із наступных прычын: Беларускі Народ ёсьць галодны, бяспраўны, гэта ёсьць першая праблема, якая мучаіць наш народ дзень і ноч, гэта тут ён патрабуіць дапамогу, гэта тут трэба паказаць яму дарогу.

Гэтыя важныя фактары ў людзкім жыцьці, у нас Беларусаў павінны быць найбольшай зброяй у барацьбе із нашымі сёняшнімі і прэтэндуючымі акупантамі.

Гэта павінна быць сітам, якое будзіць прасейваць свой нясумленны, няздольны элемэнт.

Гэта дасьць пачатак нацыянальнай філязофіі ў многіх галінах жыцьця, гэтым самым культура на акадэмічным узроўні пойдзіць наперад.

Для таго, каб узяць усё найлепшае дый адкінуць горшае із эканомікі, права ўсяго людзтва дый дапасаваць да ўмоў і патрэбы Беларускага Народа, трэба пасьвяціць многа год, трэба згуртаваць многа адданых людзей. Трэба зрабіць надзвычайны высілак, каб перамагчы перашкоды акупантаў у доступе да нашых суродзічаў. Такая груповая праца на Бацькаўшчыне ёсьць немагчыма, у Вольным Сьвеце ёсьць усе магчымасьці.

Культура зрабіла нас нацыяй, але наш народ ня цэніць сваей культуры так высока, як Украінцы дый іншыя народы;пагэтаму яна ня ёсьць той духоўнай нацыянальнай энэргіяй, каб „Беларусь і Змаганьне“ былі перадусім. Наш нацыянальны рух пачаўся із культуры, але ён абыйшоў, у нашым нацыянальным выпадку, найважнейшую праблему нашага часу гэта права, эканоміку.

Вунія із Польшчай дый пазьнейшыя акупацыі праз Расею затрымалі культурны рост нашага народа на акадэмічным узроўні: гэта можна выправіць толькі ў незалежнай дзяржаве.

// //

# Навіны, агляд прэсы — камэнтары

For those who are living in the USA, Canada, Australia, or New Zealand, and who wish to study medicine but have difficulty being accepted to the schools of medicine or dentistry in those countries, the editor of the journal, "Vieča" would suggest that you apply to foreign countries like India, where the English language is used in their colleges. "Vieča"'s editor has hundreds of addresses to these medical schools. If you are interested, write to us for informations.

*

„БЕЛАРУС“ — Лістапад, 1970 г. №163. Што чуваць?

„У Менску, як стала ведама нядаўна на Захадзе, ад 1966 году йснуе псыхіятрычная бальніца. Псыхіятрычныя бальніцы маюць адмысловую функцыю ў СССР: яны служаць ня толькі як шпіталі, але й як турмы, у якіх улада зьнявольвае актыўных апазыцыянэраў. Гэта стары мэтад змаганьня з апазыцыяй, якім шырака карысталіся расейскія цары яшчэ ў першай палавіне 19-га стагодзьдзя. Па цэлым Савецкім Саюзе псыхіятрычных бальніцаў налічваецца ня шмат, 3 або 6. Тое, што адна зь іх заснаваная цяпер у Менску, сьветчыць пра рост супрацiву маскоўскаму рэжыму на Беларусі“.

Другая псыхіятрычная шпіталь-турма ёсьць на поўдні Беларусі ў г. Чарнігаве. Як бачыце, для беларускіх дыктатароў ёсьць усё, адна праблема, як дабрацца да ўлады?

Не знаю я, як многа расейскія цары практыкавалі спосаб рабіць із нармальнага чалавека — псыхічна хворым. Расея была і

ёсьць знамянітая фізычным вынішчэньнем палітычна непажаданага для яе элэмэнту. Думаем, што псыхічная шпіталь-турма ёсьць вынаходка Захада, якую расейскія нацыянал-марксысты (бальшавікі) ўжываюць для дасягненьня пабеды „камунізма“ ў адной дзяржаве. Крытыкі, асабліва нядаўна памагатыя сацыялістычнаму рэалізму (які лепш было-б назваць: дзікарства расейскіх імпэрыялістычных нацыянал-марксыстаў) сталі ахвярай савецкіх спэцыяльных псыхіятрычных шпіталяў-турмаў. Абманьшчыкі рэвалюцыі, фанатыкі расейскага патрыятызма, някультурныя лідары крамля карыстаюцца ўсімі сродкамі, каб толькі трымацца пры ўладзе.

Якімі сродкамі карыстаецца Беларуская Палітычная Эміграцыя ў Вольным Сьвеце ў барацьбе, радзі групавога патрыятызма. Пры выхадзе ў сьвет першага нумара часапіса „Веча“, праватыканскія фашысты ў сваей газэце „Беларус“ назвалі часапіс „Веча“, няпісьменным, поўны палітычнага і рэлігійнага фанатызма. Трэба прыпомніць, што калі-б гэныя людзі былі пры ўладзе не адзін із нас быў-бы „пацыентам“ псыхічнага шпіталя-турмы. Нават для мала пісьменнага чалавека не магло прыйсьці ў галаву, што магла згарадзіць радкалегія газэты „Беларусь“ із яе радактарамі. Мы ўжо некалькі раз пісалі, будзем пісаць дый гэты раз прыпомнім: усе дыктатары ёсьць аднолькавыя, а пагэтаму сродкі прыйсьці да ўлады, трымацца пры ўладзе ёсьць аднолькавыя. Цяпер магчыма вы разумеіце нас лепш чаму амаль у кожным нумары „Веча“ мы пытаемся тых, хто маіць прэзыдэнцкія амбіцыі ў будучай незалежнай Беларусі, каб яны выказаліся пра форму дзяржавы якую яны падтрымоўваюць.

Якімі-ж сродкамі у барацьбе паміж сабою карыстаюцца тыя Беларусы, якія ёсьць падпоркамі групавых фюрараў? Толькі драты амэрыканскіх тэлефонаў могуць, аб усім гэтым, расказаць. Толькі Бог ёсьць здольным зарэгістраваць усё тое балота псыхічнага бруда, які выліваюць верныя групавому патрыятызму. І, за што? Толькі затое, што не пагаджаімся із паглядам такогаж самага Беларуса. А, чаму? Таму, што не навучыліся і не стараемся вучыцца зразумець ,талераваць свайго блізкага.

Жаданьне дыктаваць, а як фізычнага сродку ужыць немагчыма бо жывем у дэмакратычным сьвеце, пагэтаму псыхічнае балота сталася сродкам вайны паміж веруючых у групавы патрыятызм.

Псыхічнымі цэнтрамі групавога патрыятызма на эміграцыі ёсьць беларускія „духовыя цэнтры“, на чале якіх стаяць „духовыя айцы“ групавога патрыятызма.

БЕЛАРУСКІ ГОЛАС №188, Сьнежань 1970 год. На 3-яй бачыне „З нашага Архіву“ выдрукаваны ліст, „Да развагі й прысланьня думак усех ваяводцаў НЗСілаў“, аўтар ліста Віцень Гарыгляд (а. др. Войтанка). Ня будзем друкаваць гэнага ліста у часапісе „Веча“. Той, хто цікавіцца лістом зьвярніцеся да радактара „Беларускі Голас“.

Хочым зьвярнуць увагу на „Паясьненьні“ радакцыяй „Беларускі Голас“ да ліста Віценя Гарыгляда: „Летам мінулага году псэўдабээнэраўская мафія заходалася каля арганізацыі сваіх патайных збройных банд гэтак званых „двойняў“ „Нашых Збройны Схіл“. У інструкцыі наказваецца купляць „двойням“ 22мм самастрэлы і вучыцца, як ашукваць улады каб дастаць дазвол на зброю (для нібы — паляваньня, спорту, ці абароны). Як вядома 22мм самастрэлы — гэта зброя тэрарыстаў, банкавых грабежнікаў, але не зброя войска“.

Радактар „Беларускага Голасу“, Сяргэй Хмара ёсьць прэзыдэнтам „Камітэта Вызваленьня Беларусі“ (імітацыя БНР ці БЦР). Для вас прэзыдэнт Хмара із палкоўнікам Баравым гэта асабліва важна. Вы гуляіце ў такую самую гульню, як а. др. Войтанка дый іншыя. Ці ня лепш было расказаць, паказаць. як гэтыя Беларускія Збройныя Сілы могуць быць арганізаваныя ў іншы спосаб. Тое што Беларусам трэба арганізоўваць збройныя сілы няма аніякага сумніву. Для адукацыі Беларусаў, пра ўсемагчымыя спосабы арганізацыі і перашкоды для арганізацыі Беларускіх Збройных Сіл трэба пісаць больш, а не так як вы ці хоцьбы газэта „Беларусь“, якая глуміць мейсца на сваіх балонках каб размазаць „дзейнасьць“ ксяндзоў.

* * *

## ПРАВАСЛАЎНЫМ ШЛЯХАМ

Адзіны найлепшы, адукацыйны, беларускі праваслаўны часапіс на эміграцыі. Часапіс часткова пішыцца паангельску. Вось напр. №3(19), калядны нумар 1970 год: Кацiхізіс, З гісторыі Беларусі, Што такое „Галліканізм“ у каталіцкім касьцеле, Назовы месяцаў у розных народаў і г.д.

Радзім усім Беларусам выпісаць часапіс, асабліва тым, што маюць малых дзяцей. Вельмі карысна будзіць прачытаць многія павучэньні ў слух для дзяцей дый для ўсяе сям'і.

Rev. Archm. Madest (Orthodox Way) 24 Glendening st.
St. Albans (Melb.) Vic. Australia

**Радакцыя „Веча“ купіць мапу Беларусі ці брашуру із мапай Беларусі, якая была выдадзеная ў г. Смаленску, у 1919 годзе, пасьля абвешчаньня Беларускай Савецкай Рэспублікі.**

# З роднае мовы

Родная мова ё найдарожшы скарб Народу. Адно толькі жыцьцё самога Народу дарожшае за мову ягоную. Мова складаецца із слоў. Дык да чаго ж прыраўнуем словы роднае мовы? Яно — як дарагі камень. Калі людзіна забудзецца якое слова роднае мовы — гэта ўсё роўна, як бы яна згубіла свой дарагі камень. А калі Народ увесь забудзецца якое слова свае мовы, дык гэта тое самае, як бы кажны сябра таго народу, кажная людзіна ягоная згубіла свой дарагі камень. Во якое вялізманнае значэньне дзеля Народу на'т аднаго слова ягонага!.

Але толькі словы роднае мовы такія дарагія. Словы ж із чужое мовы ані не дарагія й непатрэбныя. Толькі калі дзеля назову чагось няма свайго слова, тады часам прыймаюць чужое слова. Таксама калі якоесь чужое слова неяк некалі апынулася ў чыейсь мове, прытарнавалася да тае мовы й разьвівалася так, як іншыя словы гэтае мовы, тады яго пакідаюць у мове, калі з такім жа значаньням няма слова свайго паходжаньня.

Хтось мо' скажа: „Калі чужыя словы такія непатрэбныя, дык нашто вучацца чужых моваў?“ Чужыя словы непатрэбныя, каб ужываць іх замест слоў свае мовы. А вучацца чужое мовы не на тое, каб ужываць яе замест свае; але каб магчы зразумець чужнікоў, якія не разумеюць нашае мовы, і каб яны нас зразумелі.

Ня мова твора народ, але Народы сваімі апрычонымі душэўнымі якасьцьмі патварылі апрычоныя собскія мовы. Мова ё вытварам душы народнае. Калі які Народ, паняволіўшы другі, усімі спосабамі давядзець яго да забыцьця роднае мовы, то гэты застаецца тым, чым ён быў да забыцьця свае мовы. Таксама, калі людзіна занямее, то яна не перастаець належыць да тога народу, да якога належыла перад заняменьням. Можа хто падумае: „Калі так, то няшчасьце не такое вялікае ад страты свае мовы“. Не, няшчасьце надзвычайна вялікае! Бо, першае, загіне, як ужо менавана, найдарожшы вялізманны скарб, просьле каторага застанецца толькі само жыцьцё народу. Апрача тога, мова ё найлегшаю пазнакаю апрычонасьці Народу; калі гэтае пазнакі няма, дык людзі пачынаюць забывацца, да якога народу яны належаць, пачынаюць думаць, што яны таго народу, каторы іх паняволіў, стаюцца нявіснымі нявольнікамі ягонымі. Затым усі не́прыяцелі якога народу стараюцца, каб ён мову сваю забыўся, страціў.

Пад назовам „З роднае мовы“ будзем друкаваць у „Вечу“ малыя зацемы зь беларускае або, подле праўдзівага назову нашага,

вялікалітоўскае мовы, каб гэтым памагаць нашым людзём захаваць сваю мову; а хто што згубіў зь яе, каб мог зьвярнуць.

Перш-наперш з большага надабе прывесьці гэтта беларускія тэрміны, ужываныя праз (пра) мову, каб далей чытарове маглі разумець іх. Буду зьясьняць іх і перакладаць на мову анґельскую й расійскую.

*мова* — language — язык. мова літаратурная — literary language литературный язык; мова дзяцінае — baby talk детский язык.

*мававеда,* навука праз (пра) мову, праз агульныя пра́вы быцьця й гісторычнага развою мовы — linguistics лингвистика, языковедение, языкознание.

*мававед,* адумысловец у мававедзе — linguist лингвист, языковед. мававедка — жаноцкая хорма да мававед.

*мававедны* — linguistic лингвистический, языковедческий.

*Я. Станкевіч*

(Далей будзе)

**Йшчэ раз прыпамінаем, што кошт часапіса „Веча“ за 1970 год, дзесяць намяроў, каштуюць пяць даляраў.**

**Для тых сем'яў ці асоб якія не аплоцяць часапіс за 1970 год, перасылка часапіса ў 1971 годзе будзіць спынена.**

**Радакцыя**

**Калі хто знаіць дзе можна знайсьці, незалежна ў якой мове, гісторыю альбо мапу із назвамі пасяленьняў славянскіх народаў із 800-1000-1200 гадоў, калі ласка, паведаміце радакцыю „Веча“.**

Радактар: Dr. P. Markouski Editor

Адрыс: 204 S. Highway, 18
East Brunswick, N.J. 08816
USA

Цана 50 ц. Price 50 ¢

**Printed by The Whiteruthenian Press * 452 South Avenue, Syracuse, N.Y., 13204**